СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 5.54, 20.23, 14.29;
Віцебск — 5.40, 20.17, 14.37;
Магілёў — 5.43, 20.12, 14.29;
Гомель — 5.42, 20.07, 14.25;
Гродна — 6.07, 20.39, 14.32;
Брэст — 6.14, 20.34, 14.20.

МЕСЯЦ:
Апошняя квадра 25 красавіка.

ІМЯНІНЫ:
Вадзіма;
Ляона, Лукаша



# ЗВЯЗДА

22 КРАСАВІКА 1992 г.
серада, № 82 (21860)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### ПРАДУКЦЫЯ РАЗЫХОДЗІЦЦА, А ГРОШАЙ НЯМА

Менавіта ў такім становішчы апынуўся калектыў Мінскага трактарнага завода. Зараз яго фінансавы дабрабыт у прамой залежнасці ад плацежаздольнасці спажыўцоў яго прадукцыі. Таму што многія з іх не ў стане разлічыцца з прадпрыемствам. Пакупнікі з Расіі, Казахстана, Узбекістана, Малдовы і з роднай Беларусі завінаваціліся МТЗ за адгружаныя ім трактары і запасныя часткі амаль на 1 мільярд рублёў. А на заводзе з-за гэтага крытычная сітуацыя з выдачай людзям зарплаты. Прыходзіцца браць у банку незапланаваныя дадатковыя пазыкі, за што калектыў плаціць вялікія працэнты. Толькі за адзін месяц за атрыманне пазапланаваных крэдытаў давялося «падарыць» банку амаль мільён рублёў.

**Алег ПРАЦЬКО.**

### «ЛЯТУЧКІ» ПА-ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКУ

МАГІЛЁЎ. На сустрэчы з камерсантамі абласнога цэнтра прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карагін паведаміў аб тым, што ўзначальваемая ім структура актыўна супрацоўнічае з дзелавымі коламі не толькі Мінска, але і ўсіх іншых рэгіёнаў рэспублікі. Так, Саюз стаў арганізатарам штотыднёвых селектарных «лятучак» прадпрымальнікаў Беларусі, якія адбываюцца кожны чацвер з 8 да 9 гадзін раніцы.

Разам з прадстаўнікамі недзяржаўнага сектара эканомікі сарака гарадоў у іх удзельнічаюць і афіцыяльныя прадстаўнікі ўрада і выканкомаў мясцовых Саветаў. Гэта дазваляе аператыўна прымаць рашэнні, што ўплываюць на развіццё бізнесу. У Магілёве Уладзімір Карагін паабяцаў, што ў бліжэйшы час савет Саюза прадпрымальнікаў Беларусі збіраецца правесці свае выязныя пасяджэнні ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ
#### ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА СТАТЫСТЫЦЫ І АНАЛІЗУ
#### АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў сакавіку 1992 года ў параўнанні з лютым 1992 года індэкс цэн на харчовыя і нехарчовыя тавары і паслугі, уключаныя ў «спажывецкую карзіну», склаў 119,5 працэнта.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

### «НАДЗЕЯ—ЭКСПРЭС»

**У рамках падрыхтоўкі да рэалізацыі буйнамаштабнай гуманітарнай акцыі «Надзея—экспрэс» у нашу рэспубліку прыбыла дэлегацыя амерыканскіх спецыялістаў, якую ўзначальвае кіраўнік праекта пан Д. Мамфорд.**

Гэта акцыя ўяўляе сабой бясплатную харчовую дапамогу насельніцтву Беларусі па лініі ўрада Злучаных Штатаў праз Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША пры пасрэдніцтве прыватнай некамерцыйнай арганізацыі «Сіціхоўп Інтэрнэшнл» (штат Нью-Йорк, прэзідэнт арганізацыі — п. Пол Маор).

Планам прадугледжваецца адпраўка з ЗША марскім шляхам 281 кантэйнера з харчаваннем агульным аб'ёмам звыш 3,5 тысячы тон і яго прамое размеркаванне з удзелам амерыканскага боку сярод сем'яў, якія маюць найбольшую патрэбу, а таксама перадача дамам для старых і інвалідаў, школам-інтэрнатам, лячэбным установам — галоўным чынам у абласцях і раёнах Беларусі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

Ужо адбыліся сустрэчы амерыканскай дэлегацыі з намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларусі І. А. Кенікам, кіраўнікамі міністэрстваў, ведамстваў, арганізацый і ўстаноў, задзейнічаных у ажыццяўленні акцыі. Запланаваны выезды ў Брэст, Гомель, Магілёў, Брагін, Нароўлю. Прыбыццё дапамогі чакаецца ў пачатку чэрвеня.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

### ВІЗІТ У ПОЛЬШЧУ

**ВАРШАВА, 17. (Кар. ІТАР—ТАСС Уладас Бурбуліс). Па запрашэнню прэм'ер - міністра Польшчы Яна Альшэўскага 23 красавіка ў Варшаву з афіцыяльным двухдзённым візітам прыбудзе кіраўнік Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні бюро па друку ўрада РП, распаўсюджаным сёння інфармацыйным агенцтвам ПАП.**

## ПАСТАНОВА
### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
### АБ СПРАВАЗДАЧЫ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ВЫКАНАННІ ПАСТАНОВЫ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 21 СТУДЗЕНЯ 1992 г. «АБ ХОДЗЕ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»

Адзначыць, што ў бягучым годзе работа па правядзенню зямельнай рэформы прыкметна актывізавалася. У першым квартале 1992 года плошча зямель для ўласных падсобных гаспадарак павялічылася на 95 тыс. гектараў. Пад калектыўнае садаводства і агародніцтва адведзена 11,9 тыс. гектараў. Утворана 583 сялянскія (фермерскія) гаспадаркі. Для іх адведзена 11,3 тыс. гектараў зямель.

Пашырэнне плошчы зямель для вядзення ўласных падсобных гаспадарак дазволіла ў 1991 годзе павялічыць вытворчасць бульбы ў насельніцтва на 26 працэнтаў, агародніны — больш чым у два разы. Пагалоўе кароў узрасло на 3 працэнты, авечак і коз — на 7 і птушкі — на 6 працэнтаў.

Разам з тым тэмпы правядзення зямельнай рэформы не ў поўнай меры адпавядаюць патрабаванням паскоранага вырашэння ўсяго комплексу пытанняў павелічэння вытворчасці прадуктаў харчавання на аснове стварэння ўмоў фарміравання многаўкладнай эканомікі ў аграрным сектары, а таксама для рэалізацыі магчымасці павелічэння вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ва ўласных падсобных гаспадарках, садаводчых і агародніцкіх таварыствах.

У значнай меры гэта з'яўляецца вынікам не заўсёды паслядоўнай работы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па арганізацыі выканання прынятых Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь законаў і пастаноў, а таксама асабістых рашэнняў, паніжанай патрабавальнасці да работы выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў у правядзенні зямельнай рэформы.

Да гэтага часу Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь не вырашана пытанне аб крэдытаванні сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, уключаючы вызначэнне гаранта пры атрыманні крэдыту ў банку.

Не пераадолена тэндэнцыя ўключэння некаторымі мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў у спецыяльны фонд зямельнага запасу малапрыгодных для сельскагаспадарчай вытворчасці зямель і прапановы іх для арганізацыі сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, а таксама ўшчамлення правоў грамадзян на атрыманне заканадаўча ўстаноўленых норм зямлі для вядзення падсобных гаспадарак і перадачы зямель у адпаведнасці з гэтымі нормамі ў распараджэнне сельскіх і пасялковых Саветаў.

Шмат скаргаў на дрэннае рэагаванне на звароты гарадскога насельніцтва па выдзяленню зямельных участкаў для вядзення садаводства і агародніцтва, а таксама недастатковае інфармацыйнае забеспячэнне аб магчымасцях раёнаў па выдзяленню зямель для вядзення сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і іншых патрэб.

Факты супраціўлення кіраўніцтва асобных мясцовых Саветаў і кіраўнікоў гаспадарак у прадастаўленні зямельных участкаў для стварэння сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, калектыўнага садаводства і агародніцтва не заўсёды атрымоўваюць прынцыповую ацэнку з выкарыстаннем усіх прадастаўленых Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь правоў.

Маючыя месца выпадкі прамаруджвання з распрацоўкай асобных нарматыўных дакументаў выклікаюць дадатковыя цяжкасці ў рэалізацыі прынятых рашэнняў.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Адзначыць, што работа па правядзенню зямельнай рэформы ў рэспубліцы не набыла належнага маштабу і дынамізму.

Лічыць правядзенне зямельнай рэформы адной з ключавых праблем у вырашэнні ўсяго комплексу пытанняў сацыяльна-эканамічнага пераўтварэння ў Рэспубліцы Беларусь.

2. Прыняць пад увагу інфармацыю старшыні Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь М. І. Русага, старшынь выканаўчых камітэтаў абласных Саветаў народных дэпутатаў В. І. Бурскага, М. Р. Вайцянкова, старшыні выканаўчага камітэта Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў А. М. Герасіменкі, намеснікаў старшынь выканаўчых камітэтаў абласных Саветаў народных дэпутатаў М. І. Гіруця, А. М. Жука, Ц. І. Місуны аб ходзе ажыццяўлення зямельнай рэформы і запэўніванні, што імі будуць прымацца меры па няўхільнаму выкананню рашэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па яе правядзенню.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін вырашыць пытанні аб крэдытаванні сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, уключаючы вызначэнне гаранта пры атрыманні крэдыту ў банку;

у поўным аб'ёме рэалізаваць прынятыя рашэнні па аказанню фінансавай дапамогі і забеспячэнню сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі, палепшыць інфармацыйнае забеспячэнне насельніцтва аб наяўных магчымасцях па выдзяленню зямель для вядзення сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, садаводства і агародніцтва;

узмацніць патрабавальнасць да мясцовых Саветаў народных дэпутатаў за абавязковае выкананне прынятых Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь актаў заканадаўства па зямельнай рэформе;

забяспечыць у 1992 годзе правядзенне работ па скарачэнню плошчаў зямель, прадастаўленых для патрэб абароны не менш як на 30 працэнтаў, у першую чаргу для забеспячэння патрабаванняў гарадскога насельніцтва ў зямлі.

4. Пракуратуры Рэспублікі Беларусь забяспечыць пастаянны нагляд за безумоўным выкананнем зямельнага заканадаўства, прымаць прадугледжаныя законам меры да асоб, якія перашкаджаюць правядзенню зямельнай рэформы.

5. Кантроль за выкананнем гэтай Пастановы ўскласці на Камісію па аграрных пытаннях, харчаванню і сацыяльнаму развіццю сяла.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

6 красавіка 1992 г.
г. Мінск.



## «Купіў бы «Зеніт»—гора не ведаў...»

Як Парыж ганарыцца Эйфелевай вежай, Непал — вышэйшай у свеце вяршыняй Эверэст, так, здаецца, Вілейка — заводам «Зеніт». Відаць, ёсць чым. Тут жартуюць, што нават немаўляты пасля слоў «мама» і «тата» вымаўляюць «Зеніт».

Гэта і не дзіўна, большасць бацькоў малых тут і працуюць. Не будзе, відаць, для многіх нечаканым, калі дзеці ў хуткім часе папоўняць свой слоўнікавы запас словамі «бінокль», «прыцэл», «фотаапарат», якія на прадпрыемстве выпускаюць. Дарэчы, тут яшчэ шмат што робяць. Да нядаўняга часу завод быў засакрэчаны. Цяпер сакрэтаў быццам бы і не засталося, а парадак захаваўся: уваход на тэрыторыю толькі па прапусках.

А наогул, не толькі прапускны рэжым застаўся. На тэрыторыі завода яшчэ вісяць плакаты тыпу: «Усё, што намеціла партыя — выканаем», розныя стэнды на тэму, «як добра будзе жыць пры камунізме». Відаць, хутка яны знікнуць адсюль, але наўрад ці знікнуць праблемы, якіх амаль за дваццацігадовае існаванне набралася шмат. Але ж яны былі з самага пачатку работы прадпрыемства...

Завод будаваўся для выпуску тавараў народнага спажывання. У сямідзесятыя быў вялікі попыт на люстэркавыя фотаапараты. Узяўшы за ўзор краснагорскі «Зеніт» планавалі выпускаць такіх апаратаў 300 тысяч у год.

Паралельна наладзілі выпуск дзіцячых бінокляў, лінеек з павелічальным шклом, прыцэлаў для ружжаў. Завод пайшоў угору. Паступова паліцы магазінаў запоўніліся вілейскімі таварамі, асабліва фотаапаратамі. Дзесьці ў пачатку 80-х попыт на іх рэзка ўпаў, і гады чатыры прадукцыя гэта ляжала мёртвым грузам на складах баз і магазінаў.

Тады і Мінгандаль, і Міністэрства абароннай прамысловасці (якому і цяпер належыць завод) забаранялі перавыконваць план. Высокія чыны гаварылі, што прадукцыя Вілейкі нізкай якасці, таму трэба крыху прытармазіць канвеер. І на прадпрыемства прадукцыя стала вяртацца цэлымі партыямі. Многія скрынкі былі нават не раскрытымі.

Але адышоў той сумны час, і для вілейскіх фотаапаратаў настала «залатая» пара — шалёны ажыятаж. Завод не паспяваў іх штампаваць, як яны тут жа дастаўляліся ў магазін, дзе ішлі ў продаж.

Праўда, прадпрыемству прыйшлося прыкласці шмат намаганняў, каб набраць патрэбную магутнасць.

Ажыятаж на «Зеніты» перайшоў было ўсе межы. Апараты зніклі зусім. Прычым ахвотнікаў паздымаць не прыбавілася, затое з адкрыццём польскай граніцы аб'явілася шмат турыстаў, якія ехалі туды абавязкова з фотаапаратамі!

Так працягвалася некалькі гадоў. І толькі нядаўняе павышэнне цэн крыху астудзіла запал прадпрымальніцтва — вываз оптыкі на продаж за мяжу. Праўда, працягвалася гэта нядоўга, таму што нестабільнасць у нашай эканоміцы і палітыцы пераважыла высокія цэны, і грамадзяне, нягледзячы на іх, а таксама на «візіткі», купоны, чэкавыя кніжкі, зноў накінуліся на фотаапараты. І зноў на прылаўках стала пуста.

**— Цікава, чаму так адбылося? — пытаюся ў намесніка дырэктара па камерцыйных справах Віталя Чамарова. — Няўжо зноў цэны падскочаць?**

— Мы не змяншалі выпуску «Зенітаў-ЕТ» і пакуль што не павялічвалі цану, — адказвае Віталь Васільевіч. — Людзі проста не вераць у заўтрашні дзень і ведаюць, што нічога таннейшым не стане.

**— Можа, прычына ў тым, што аднаго завода на рэспубліку не хапае?**

— Для Беларусі, думаю, хопіць і аднаго. Здаецца, дзяржзаказ мы выконваем. Акрамя таго, шмат прадукцыі адпраўляем ва ўсе канцы былога Саюза: у Прыбалтыку, Малдову, на Далёкі Усход.

Чаму ўсё ж не хапае? Думаю, што вінаваты ў гэтым нашы турысты. Яны, дарэчы, сапсавалі польскі рынак і для нас. Каб не прадавалі там апараты за бясцэнак, то можна было б мець нядрэнныя сувязі з палякамі.

**— Хіба нельга замежных партнёраў чым-небудзь зацікавіць? Напрыклад, зрабіць «Зеніты» больш прывабнымі, устанавіць палепшаныя аб'ектывы?**

— Ведаеце, радавому пакупніку, як мне здаецца, усё роўна, якога колеру наша оптыка і з якім аб'ектывам. Галоўнае —каб «Зеніт». У нас жа нядрэнная тэхніка. У замежных фотаапаратаў проста магчымасці шырэйшыя. Напрыклад, аўтаматычныя і перамотка стужкі, і навядзенне рэзкасці. Але і ў «Зенітаў» ёсць свае перавагі.

Памятаецца, быў я ў Анголе. Падыходзіць да мяне наш рабочы і пытае, як закласці стужку ў толькі што куплены «Кодак». Я паглядзеў гэту заморскую тэхніку і бачу, што стужка звычайнага фармату туды не падыходзіць.

«Купіў бы «Зеніт», — кажу суайчынніку,—і гора не ведаў бы».

Вось так. Не ўсё замежнае лепшае.

**— З вашых слоў можна зрабіць вывад, што не за гарамі час, калі прадукцыю аб'яднання ўбачаць заходнія бізнесмены, прадпрымальнікі і, наогул, простыя людзі.**

— Канешне. Дарэчы, сувязі з замежнымі партнёрамі мы ўжо маем. Напрыклад, прадалі партыю зоркавых труб у Італію. На чарзе новая прадукцыя на экспарт. Мы правялі перагаворы са шмат якімі краінамі. Да нас праявілі цікавасць Турцыя, ЗША, Канада, Кітай...

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## «З Леніным у галаве і з купонам у руцэ»

**Для адных ён — ідэал, для іншых — д'ябал. З яго імем Савецкі Саюз пражыў больш сямідзесяці гадоў, ды і зараз яно ва ўсіх на вуснах. Так, сапраўды, заснавальніку бальшавіцкай партыі і першаму кіраўніку савецкай дзяржавы сёння споўнілася б 122 гады. Абыдземся без каментарыяў і рэплік і прадаставім слова тым, хто так ці інакш звязаны з імем Леніна.**

— **Віктар ГАРУНОЎ, магілёўская астралагічная школа:** «Ленін, які нарадзіўся 22 красавіка, валодае якасцямі як Цяльца, так і Авена. А гэта, як вядома, натуры вельмі працілеглыя, свавольныя, заўсёды імкнуцца да лідэрства і не церпяць, калі ім у гэтым перашкаджаюць. Дасканала вывучаючы персанальны гараскоп «правадыра сусветнага пралетарыяту», я заўважыў адну цікавую асаблівасць. Астролагі ведаюць, якім небяспечным можа быць плён саюза паміж двума Цяльцамі. Памятаеце, Маркс жа таксама Цялец, а Ленін узяў за аснову яго вучэнне, таму марксісцка-ленінская дактрына з пункту гледжання «зорнай навукі» не магла быць трывала прыстасавана да рэальнага жыцця. Большасць асоб, народжаных у першыя дні Цяльца, схільныя да тыраніі (Садам Хусейн, Жырыноўскі) і непрадказальных дзеянняў. Такім жа быў і Ленін — чалавек, несумненна, геніяльны і адначасова адыёзны».

**Людміла МАКСІМЕНЯ, аспірантка, у інстытуце атрымлівала Ленінскую стыпендыю:** «Мне нісколькі не сорамна за тое, што ў час вучобы ў інстытуце я атрымлівала Ленінскую стыпендыю. Пры ўсім тым, што цяпер гавораць і пішуць пра Леніна, мае думкі могуць здацца, мякка кажучы, нямоднымі. Але ўсё роўна лічу, што гэта фігура ў нашай гісторыі параўнальная толькі з Пятром Вялікім, раз змог скрануць і паставіць на іншы шлях такую велізарную шматнацыянальную краіну, павесці за сабой мільёны людзей. Іншае пытанне, што аб любой справе прынята меркаваць па яе выніках, а яны, як бачыце, амаль катастрафічныя».

**Уладзімір МАСЕВІЧ, г. Маладзечна, жыве на вуліцы імя Леніна:** «Ну чаго вы прычапіліся да Леніна? Жыў сабе чалавек і, дарэчы, паводзіў сябе больш культурна, чым сённяшнія кіраўнікі-«дэмакраты». Жыву я сапраўды на вуліцы Леніна, але ніякага псіхалагічнага дыскамфорту ад гэтага не адчуваю, хаця ў суседзяў ужо узнікалі думкі наконт перайменавання. Калі ўжо на тое пайшло, Уладзімір Ільіч не адхопліваў сабе кватэры па 400 квадратных метраў, як Хасбулатаў, і не зарабляў долары на сваіх прамовах, як гэта робіць Гарбачоў. Наадварот, яго заўсёды натхняла ідэя сацыяльнай роўнасці, чаго нам так не хапае цяпер. А ідэя гуманізму, распрацаваная Леніным, выкарыстоўваецца (і паспяхова) у краінах заходняй дэмакратыі, на якія мы так імкнёмся раўняцца».

**Уладлен Сямёнавіч КАРПЕНКА, г. Мінск, пенсіянер:** «Са мной наогул здарылася неверагодная рэч. Сам я з сям'і святара, але, пасварыўшыся з бацькам, уцёк з дому і прынцыпова замест сапраўднага імя Рыгор выбраў імя Уладлен, што азначае ў расшыфроўцы Уладзімір Ленін. Зрабіў я гэта свядома і доўгі час аб гэтым не шкадаваў. Потым, калі памёр бацька, з якім я не падтрымліваў амаль ніякіх сувязей, мой давер да Леніна пачаў знікаць. Бацька заўсёды называў Леніна антыхрыстам, і я цяпер згодны з такім сцвярджэннем. Інакш чаму яго не пахавалі ў зямлі, а паставілі ў гэтым склепе не па-чалавечы і не па-хрысціянску? Але імя мяняць не стаў, бо гэта неяк няёмка ў маім узросце. Наогул жа Ленін пры ўсіх сваіх адмоўных рысах і яўнай сувязі з нячысцікам шмат зрабіў для Расіі. Маё жыццё прайшло разам з яго імем у прамым і пераносным сэнсе, а гэта так проста не забываецца. Вось толькі не трэба было рабіць з яго яшчэ аднаго Бога, калі ўжо ёсць Ісус».

## МІЛЬЯНЕР... З ТОРБАЙ?

**Па выніках работы за мінулы год саўгас «Іскра» атрымаў звыш мільёна рублёў чыстага прыбытку. Здавалася б, толькі радавацца трэба, а тут гаруюць-бядуюць. На сённяшні дзень рабочыя гаспадаркі засталіся без зарплаты. Чаму? Толькі ў красавіку яе выдалі за студзень, за люты ж і сакавік (а цяпер ужо і красавік) невядома калі людзі атрымаюць свае «драўляныя».**

А ўсё таму, што прыбытак растаяў, як леташні снег пад сонцам. У капеечку ўляцелі насенне, угнаенні, будаўнічыя матэрыялы. А тут яшчэ ў кароўніках сапсаваліся два малакаправоды. Іх давялося тэрмінова замяніць. Да таго ж купілі два трактары, гноераскідвальнік. І, лічы, «плакалі» грошыкі.

Парайце вяскоўцам, дзе ж ім шукаць цяпер фінансы? Адправілі на Аршанскі мясакамбінат партыю жывёлы. Прыняць яе прынялі, але без асаблівай ахвоты. Маўляў, халадзільнікі загружаны мясам, а тут яшчэ магазіны вяртаюць прадукцыю, якую не ўдалося рэалізаваць з-за высокіх цэн. Так што за спінай калгаса-мільянера можа хутка з'явіцца жабрацкая торба.

**Тамара МАХТАДУЙ.**

Талачынскі раён.

## Баліць жывым...



«Дзе ўчора труна стаяла, там сёння пір шуміць!» — абурыўся герой шэкспіраўскай трагедыі. Маю падставу сцвярджаць, што гэтае процістаянне нябожчыкаў і жывых існуе і сёння. Прыклад недалёка — на прэстыжных Усходніх могілках Мінска (або, як іх называюць людзі,—«Маскоўскіх»). Труна ў той зямлі не адна—амаль 22 тысячы магіл, але спакою тут няма: даносіцца шум ад рухавікоў, трактараў, самазвалаў. Хутка грымне і пір: уваходзіны ў новенькія гаражы адзначаць дзесяткі ўладальнікаў персанальных аўтамабіляў.

— Гэтыя гаражы будуюцца для мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт», — сказаў пры сустрэчы дырэктар Усходніх могілак Рыгор Мартынюк.— Можна б было і не планаваць будаўніцтва так, каб сценкі гаражоў дакраналіся да агароджы могілак. Але ж, відаць, вялікая была спакуса адхапіць лішні кавалак зямлі. У выніку частка могілак. Тут звалены бетонныя блокі, накідана смецце, зямля парэзана каляінамі ад колаў цяжкіх аўтамабіляў. Агароджа разбурана, цагліны ж хуценька знікаюць, «узмацняючы» гаражы.

— Такія адносіны да могілак абвастрылі на гэтай тэрыторыі крымінагенную абстаноўку, — тлумачыць старшы сяржант міліцыі Уладзімір Грыненка, які нясе службу па ахове аб'екта «Усходнія». — Будаўнікі і праекціроўшчыкі стварылі добрыя ўмовы для кампаній выпівох, рабаўнікоў магільных помнікаў.

Кажуць, мёртвым не баліць. Не ў стане пастаяць за свой спакой ні простыя нябожчыкі, ні тытуляваныя начальнікі, ні салдаты Вялікай Айчыннай вайны, пахаваныя тут у брацкіх магілах. Баліць жывым, чыё сумленне не можа змірыцца са знявагай памяці. Не так даўно ўсе мы абураліся прыкладамі парушэння правоў чалавека ў нашым грамадстве. Сёння чарговае пакаленне кіраўнікоў адным росчыркам пяра дае жыццё праектам, якія зневажаюць правы нябожчыкаў на спакой.

Пір на месцы труны працягваецца.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**



